Вандроўка „Жывога слова” па Беласточчыне    Гміна Гайнаўка 14 - 18 жніўня 1998 года.

# Вандроўнае слова

Чыжыкі - Новэ Бэрэзово - Дубічы Осочнэ - Хітра - Буорок - Пасечнікі Вэлікі  (Міескі ліес) - Орэшково.

## Слова да гаспадароў

Прывыклі мы лічыць сябе горшымі за іншых. Часта наракаючы на лёс, не хочам быць сабой. Чаму?  Чаму мы госці на сваёй зямлі? Тут пад блакітным купалам неба спрадвеку гучыць наша мілагучная мова. Тут жа нашы продкі былі добрымі гаспадарамі, стварылі багатыя традыцыі. Жывем у сярэдзіне Эўропы, дзе крыжаваліся розныя шляхі. Часта прыходзілі чужынцы і недобразычліўцы ды абдурвалі мясцовых. На працягу стагоддзяў змяняліся дзяржавы і ўлады. Можа таму найчасцей называем сябе тутэйшымі, шукаем свайго імя. Трэба  шанаваць сябе. Ніхто важны не запэўніць нам дабрабыту і шчасця. Патрэбныя мы для іншых, як мышы кату.

У кожнага чалавека свая доля. Мне таксама пашчасціла нарадзіцца і ўзрасці каля Белавежскай пушчы, дзе ў жыце красуюцца васілёчкі а пад аблакамі звоняць жаваранкі. У жыцці  дуюць і неспрыяльныя вятры. калі ломяцца дрэвы і людзкое жыццё. Прыходзіцца змірыцца з горычу апусцелага сямейнага гнязда...

Вялікае шчасце, калі чалавек жыве ў родным месцы. Добра вітаць шчырых гасцей. Гэтым летам на Гайнаўшчыне вандруе беларуская моладзь трымаецца роднай мовы, любіць сваю культуру. Студэнскі тэатр  „ Жывое слова” з Педагагічнага унівэрсытэту ў Менску ўжо больш трыццаці гадоў наведвае розныя мясціны беларускай зямлі з мастацкім словам і песнямі. На Беласточчыне вандроўкі беларускай моладзі праводзяцца больш дзесяці гадоў. Нашых дзяўчат і хлопцаў кліча родная зямля, як тая маці, што выглядае дочак і сыноў. Сустрэчы ў вёсках, дзе жывуць беларусы патрэбныя ім як чыстае паветра і жывая вада. Без Айчыны чалавек хварэе. Ад 1991 года кожным летам на некалькі дзён нашае Падляша наведвае вандроўны тэатр  „Жывое слова”  з Беларусі, каб тутэйшую штодзёншчыну арасіць жывой беларускай культурай. У больш паўсотні падляскіх вёсках людзі віталі і добразычліва прымалі, пачуўшы іх мілагучны голас. У гэты раз таксама адбудуцца сардэчныя сустрэчы з добрымі людзьмі. Астануцца ўспаміны ды надзея, што жыве Беларусь і мы жыць будзем яшчэ доўга на гэтай прыгожай зямлі.

## Слова да вандруючых

Маладыя сябры „жываслоўцы”  і зноў сустракаемся на Падляшшы, дзе спрадвеку жыве добразычлівы народ, які не крыўдзіў іншых. На жаль яны былі не раз пакрыўджаныя ды падманыванымі ворагамі і хціўцамі. А вы тут свае, хаця прыехалі з розных мясцін маляўнічай Беларусі. Вядома для вас, што наш народ мае слаўнае мінулае, стварыў адну з цікавейшых культур у Эўропе. Аднак беларускія скарбы даступныя пакуль не ўсім нам.  Вас чакае многа шчырай працы на бацькаўскай ніве. Не дазвольце на хранічныя дрымоты  душы беларусаў.  Падчас вандравання праз вёскі,  дзе жывуць патомкі асочнікаў і пасечнікаў  старажытнай Белавежскай пушчы, захапляйцеся прыродай-чараўніцай, адкрывайце тайны гэтай зямлі.

* * *

Тэрыторыя гміны Гайнаўка ахоплівае 293 квадратных кілометраў, дзе ў 37 вёсках жыве 4850 людзей. Недзе 90 %  ёсць праваслаўнымі. Тут тры парафіі: Дубіны,  Арэшкава і Новае Беразова. Есць чатыры  Падставовыя школы:  ў Дубінах, Арэшкаве,  Новым Корніне і Махнатым. Урокі беларускай мовы наведвае каля 70% вучняў. Амаль у кожнай вёсцы пабудаваная святліца, дзе можа выступіць тэатр „Жывое слова”, калі дазволіць Пані Войт ды Прэзідэнт РБ.

# Траса вандроўкі




**14 жн. - пятніца - ЧЫЖЫКІ**

Паводле гістарычных крыніц у 1640 годзе тут была калёнія Чыжоў ( зв. Новы Чыжэ ), рускага роду, які даўней пасяліўся ў месцы цяперашняй вёскі Чыжэ. У Чыжыках захавалася многа прыгожых драўляных хат і адзін арыгінальны вятрак. У вёсцы ёсць праваслаўная капліччка з пачатку XX стагоддзя.

**15 жн. - субота - НОВЭ БЭРЭЗОВО**

У 1616 г. жылі тут некаторыя жыхары перасеrange з недалёкага Бэрэзова ( цяпер Старое Бэрэзово ). Паходжанне назвы ад бярэзіны. У другой палове XVIII ст. пабудаваная тут драўляная царква св. Яна Багаслова. Праз сто гадоў збудавана другую, мураваную царкву Узнясення Госпадняга. У гэтай вёсцы ёсць і дзве праваслаўныя капліччкі. мураваная св. Аляксандра Неўскага з 1868 г. і драўляная св. Юрыя з 1888 г.

У трыццатых гадах XX ст. у Новым Бэрозові пабудавалі школу. Захаваўся гэты будынак, у якім вучыліся амаль усе жыхары навакольных вёсак. Чамусці нейкія ўрадаўцы ўпадабалі тут месца на памятную таблицу прысвечаную памяці начальніка Польскай дзяржавы, маршалку Юзэфу Пілсудскаму.

## 16 жн. - нядзеля - ДУБІЧЫ ОСОЧНЫ

Ужо ў 1576 г. тут пасяліліся дубічы і асочнікі Белавежскай пушчы. Чамуспі навукоўцы выводзяць назву ад дрэва - дуб?
Зразумела, калі датычыцца гэта Дубіноў, ці Дубяжына. Рамеснікаў, якія дубілі звярыныя шкуры называлі калісці менавіта - дубічамі. Асочнікі падчас княжацкіх і каралеўслiх паляванняў асочвалі звярыну.

### - ХІТРА.

У архівальных крыніцах знаходзім назву вёскі над лясной рэчкай, якая хітра плыла ( зн. віляючы хвастом). З Бельска ў Белавежскую пушчу праходзіў тут гасцінец, па якім ехалі розныя вяльможы. Каля пераправы праз „хітру" рэчку ужо 1611 годзе было паселішча.

## 17 жн. - панядзелак - „ Гурняньскіе лонкі"

На ўзбярэжжы Белавежскай пушчы ў сутоку рэчак Хітра і Хвішчэй знаходзілася сапраўднае вялізнае балота. На звыш 100 гектарах паўстае тут ахоўны рэзэрват вадаплаўных птушак. Можам тут убачыць вяртлявыя камышаўкі, белакрылыя крачкі, шыраканоскі, малога падворліка, удота ды дупеля.

### - БУОРОК.

У месцы хваёвага ляска перад 1616 годам пасяліліся людзі. Цяпер тут вёсачка маленькая ды ўдаленькая.

## 18 жн. - НАСЕЧНІКІ ВЭЛКІ (МІЕСКІ ЛІЕС)

У 1580 годзе выдзелена тут лес для старажытнага места - Бельск. У 1775 годзе жылі тут пераважна людзі, якія займаліся пчалярствам (пасекамі). У гэтай вёсцы некалькі пасёлкаў распаложаных ад Ягаднікаў да Орэшкова.

### - ОРЭШКОВО

Перад 1639 годам тут відавочна пасяліўся род Орэшкаў. Падчас Студзенскага паўстання ў 1863 г. змагаўся ў Орэшкаві паўстанскі атрад, у якім м.ін. дзейнічаў Валеры Ўрублеўскі - пазнейшы генерал Парыжскай Камуны. У пачатку XX ст. непадалёк вёскі пракладзена чыгунка з Варшавы ў Белавежскую пушчу. Каля вёскі захаваўся вятрак перавезены сюды з Ягаднікаў у 1918 г. На могілках у 1949 г. пабудаваная царква. Многія гады ў вёсцы дзейнічае фальклерны жаночы калектыў „Арэшкі". У ваколіцы Орэшкова ў мінулым адбываліся розныя падзеі, часам трагічныя. Будзем аднак верыць, што ўсё дрэннае за намі і не вернецца больш ніколі.

* * *

**т у т э й ш ы**

кахаю
дыхаю
п'ю твае сокі
мае словы падаюць
у бязмежжа цішыні
зялёны лес
жывучых на ўскраіне
адна ёсць толькі
Белавежская пушча

*Славамір Кулік*



*Памяць трагічных падзей*



*Царква ў Арэшкаве*



*Коні спадара Мікалая Васілюка*

# КРЫЖАВАНКА



(Увага, надта скамплікаваная)

З літараў у дыяграме складзі назву твайго любімага мастацкага калектыву. І гэта яшчэ не ўсё. Цяпер разгадай вертыкалі і ўпішы іх там, дзе трэба з верху ў ніз. Па відавочнай гарызанталі з лева на права вылезе, бы тое шыла з мяшка, патрэбная адгадка. За ўзнагародай хутчэй бяжы да арганізатара мерапрыемства - **Юркі Шульскага**.

*А пакуль давай - адгадывай:*

**1.** Ніколі не ўзляцеў, хоць крыламі махаў а ў канцы яго той, хто ўзад поўзаў.
**2.** У Арэшкаве - адна, у Новым Беразове - дзве, а ў Хітрай - ніводнай.
**3.** Асаблівы вершнік, якім можаш быць і ты, калі добра пагаворыш са спадаром Мікалаем Васілюком.
**4.** Не дай бог, калі ступіць ён на парог.
**5.** Напісаны гук з соткай у сярэдзіне, а калі выкінеш два а атрымаеш літра.
**6.** Белая прыгажуня на нашай зямлі, пачуем яе шум каб пад ёй ляглі.
**7.** У небе - птушка, у птушцы - шкарлупка, у шкарлупцы - бялок, а ў ім - „галубок".
**8.** Сундук жаночага роду, што хавае старую моду.
**9.** Калі любіць барана, значыць - яна.

***ядань***

Напішы сам

**„ Вандроўнае слова"** - аднадзёнка
Бельск Пад. - жнівень 1998 г. Наклад 500 экз.
Да друку падрыхтавалі:
Славамір Кулік і Ян Мордань.
Кампутарны набор - Юрка Паплаўскі.
Арганізатар вандроўкі - Юрка Шульскі, старшыня Беларускага Аб'яднання Студэнтаў у Польшчы.
Вандроўка адбываецца дзякуючы Жыхарам вёсак на трасе і Fundacji Stefana Batorego.